# ВЕДА VEDA

Навукова-Літаратурны месячнік

Выдаець Крывіцкае (Беларускае) Навуковае Таварыства Пранціша Скарыны



Kryvian (Whiteruthenian) Scientific and Literary Monthly

Published by Francis Skoryna Kryvian (Whiteruthenian) Society of Arts and Sciences in the U. S., Inc.

Address: 6 Vandervoort Place, Brooklyn 37, New York, U. S. A.

1952, люты | Цана 30 ц. | № 2 (7) | February 1952

Максім Прынскі

## ТОЕ-СЁЕ АБ ДРУКАРСКІХ МАЙСТРОХ БЕЛАРУСКІХ — ПЁТРУ МСЬЦІСЛАЎЦУ, ІВАНУ ФЕДАРОВІЧУ А ГРЫНЮ ІВАНОВІЧУ*)

Калі не найвыдатнейшае, дык адно з найвыдатнейшых месцаў у багатай культурнай гісторыі беларускага народу займае друкарства. А тымчасам пра беларускіх друкароў мы так мала ведаем. Нат ня маем поўнага веданьня пра жыцьцё а дзеяльнасьць слаўнага дохтара Пранціша Скарыну. Праца Хв. Ільляшэвіча праз друкарню Мамонічаў ня ёсьць ані высіляючай, ані здаваляючай. А што да майстроў гэтае і чысьленых іншых друкарняў беларускіх, дык аб іх беларускае грамадзтва нічагусенькі ня ведае. Дзеля таго я

*) Артыкул гэты напісаны галоўна на подзе кніжкі В. Раманоўскага „Друкар Іван Федорович, життя його та діяльність", Кіеў 1925. Праца Раманоўскага аб Федаровічу высіляючая, і гэты мой артыкул ё адно публіцыстычным дапаўненьням аб гэтым друкару. Мсьціслаўцом а Івановічам Раманоўскі цікавіўся адно толькі, паколькі яны ў сваёй дзейнасьці стыкаліся зь Ів. Федаровічам. Жыцьцё а дзеяльнасьць гэтых друкарскіх майстроў беларускіх жджэць яшчэ сваіх дасьледаваньнікаў.

хачу гэтым сваім артыкулам хоць крышку прычыніцца да пашырэньня веды аб трох менаваных у назове беларускіх друкарох.

У 1553 г. Іван Грозны загадаў „устроити дом от своея царскія казны, идеже печатному делу строитися" (2)**). Гэтак кажа друкар Іван Федаровіч або Фёдараў***) у праслямове да маскоўскага Апостола 1564 г. пра пачаткі друкарства ў Маскве. Просьле гэтага аж у 1564 г., знач. за 10 год, вышла першая друкаваная кніжка ў Маскве „Апостол". Р. ўважае гэны „дом" за друкарню і пытаецца, ці запраўды менаваны „Апостол" быў першай друкаванай кніжкаю ў Маскве. Я думаю, што нямаш ніякіх падставаў не ўважаць „Апостола" 1564 г. за першы маскоўскі друк. Калі-б перад ім было штось у Маскве надрукавана, дык гэта запісалі-б маскоўскія дзякі. Што, што але статыстыка ў Маскве была пастаўлена добра. Гэта-ж татарская школа, у каторых усё чыста было палічына й запісана!****) З другога боку, нельга думаць, што 10 год складалі „Апостола". Гэткае барзьдзіні й маскоўскія пісары не пазавідавалі-б! Калі і ўважаць гэны „дом" за друкарню, дык адна рэч загадаць, а другая загад споўніць. Шмат год магло прайсьці, пакуль першая друкарня была канчальна ўладжаная.

**Хто наўчыў Маскву друку?** Р. ўважае, што Федаровіч і ягоны друкарскі сябра, Пётра Мсьціславец, наўчыліся друкарства ў місыянара Ганса Місынгейма або накш Ганса Богбіндэра, каторага ў 1552 г. прыслаў да Масквы данскі кароль Хрысьцян Ш. Хрысьцян сам быў рупатлівы лютэранін і спадзяваўся навярнуць на лютэранства маскоўскага цара. Пра гэта кароль выразьліва зацеміў у сваім лісьце да І. Грознага, што захаваўся дагэтуль. У Місынгейма была Бібля ды йшчэ якіясь кніжкі, дзе былі выкладзеныя асновы рэфор-

---

**) Лікі ў дужках паказуюць бачыны кніжкі Раманоўскага.

***) У Маскве яго звалі Фёдараў, а ў Беларусі — Федаровіч.

****) Р., прывёўшы пагляды адных аўтараў, што першым друкам у Маскве быў Апостол 1564 г., і другіх, што й перад гэтым Маскоўцы друкавалі кніжкі, і не падаўшы аргумэнтаў гэтых другіх, ані дадаўшы сваіх, заяўляе, што ў навуковай літаратуры факт маскоўскіх друкаў перад 1564 г. можна ўважаць за ўстаноўлены (2). Гэтая заява тым больш выглядае дзіўной, што просьле аўтараў, даводзячых быцьцё маскоўскіх друкаў перад 1564 г., выдаў у 1889 г. сваю кнігу Каратаеў, катораму іхныя аргумэнты ня былі пераконуючымі. Тое, што, просьле спробы друку 1564 г., у Маскве друкарства пачалося толькі ў XVII ст., паказуе, што Маскоўшчына ў XVI ст. ня была вырасшы да друкарства. Аргумэнтам за быцьцё друкаў маскоўскіх перад 1564 г. магла толькі служыць — і гэта падаець Р. — дасканальная тэхніка „Апостола" 1564 г. Тымчасам, як пабачым, гэта сусім начай выясьняецца.

мацыйнай веры, і кароль суліў разгледзець гэтыя кніжкі разам із мітрапалітам, біскупамі і ўсім духавенствам і, калі-б сабор прыстаў на лютэранскую навуку, то Місынгейм надрукаваў-бы менаваных кнігаў колькі тысячаў экзэмпляроў маскоўскай моваю" (7). Гэтае сваё дапушчэньне Р. падпірае фактам, што маскоўскія цары давалі ставіць цэрквы Італьянцам. Але што іншае архітэктары, а што іншае місыянар, прысланы з выразьлівай мэтаю навярнуць на протэстанцтва Маскву, тую Маскву, што так падазравала ў гэрэзі ўсіх чыста чужнікоў, ня вылучаючы нат Грэкаў. Дзеля таго трэба згадзіцца із С. Салаўёвам, што кажа „Нельга паверыць, каб Іван паручыў уладжаньне друкарні чалавеку, прысланаму яўна з мэтаю шырэньня протэстанцтва".

Дык хто-ж быў друкарскім вучыцелям Івана Федаровіча? Федаровіч не адзін друкаваў маскоўскага Апостола 1564 г. Ягоным найбліжшым сябрам у друкарсьцьве быў Пётра Мсьціславец, восьжа Беларус із места Мсьціслаўля,*) прадстаўнік народу, што ўжо 80 год друкаваў свае кнігі**) і каторы маў такога слаўнага шырыцеля друкарства, як дохтар Пр. Скарына.

Апрача таго, Флетчэр, што жыў у Маскве за сына Івана Грознага, Хведара, пішучы пра асьвету ў Маскоўшчыне, кажа, што яшчэ за Івана Грознага „зь ягонага дазволу й зычэньня прывезьлі да Масквы з Польшчы друкарскую машыну й літары і заклалі друкарню". Нельга думаць, каб Флетчэр памяшаў Беларусь, што тады звалі Літвою, з Польшчаю. Пра Беларусь тады добра зналі ў Маскве і ўсюдых і зьмяшаць із Польшчаю альбо зь іншым гаспадарствам не маглі. Але польскай собскасьцю друкарня не магла быць, Палякі ня мелі кірылічных літараў. Магчыма, што беларуская друкарня была перавезена пераз польскі порт Гданск або Кенігсбэрг. Але сусім магчыма, што друкарня запраўды была вывезена з Польшчы. Мы ведаем, што ў васьмідзясятых а дзевяцьдзясятых гадох XV стг. Беларусы малі свае друкарні ў Кракаве. З пашырэньням беларускага друкарства ў самай Беларусі (пачынаючы ад прывезенай у 1520 г. з Прагі (Чэхі) да Вільні друкарні Скарынінай) гэныя друкарні на чужыне перасталі быць патрэбныя Беларусам, і друкарня магла быць прадана Маскоўцам і вывезена з Польшчы. Але аднае друкарні мала, каб друкаваць, трэба яшчэ друкар, што

*) Пр. Янчук: Нарысы гісторыі беларускай літаратуры, 39.

**) „Трыодзь цьветная" — першая ведамая друкаваная кніжка беларуская, вышла ў 1483 г. ў Кракаве.

сам-бы друкаваў і навучыў іншых рабіць у друкарні. Везьці друкарню бяз друкарскага майстры, ня маючы друкароў у сябе, рэч лішняя. Але-ж ведаем, што і беларускі друкар Пётра Мсьціславец апынуўся ў Маскве. Мсьціславец найпраўдападабней і паехаў у Маскву разам із друкарняю. Дыкжэ й Р. зазначае, што „імя найбліжшага (да Федаровіча) сябры ў друкарскай рабоце Пётры Мсьціслаўца таксама намякае на тое, што першыя спробы друкарскай работы ў Маскве былі зьвязаныя із заходне-рускімі (чытай: беларускімі) друкарнямі" (7). Гэта пацьвярджаецца й тым, што „асабліва зырка выступае гэта сувязь, калі прыраўнаваць шрыфты першадрукаў маскоўскіх (недатаваных) із выданьнямі беларускіх друкарняў у першай палове XVI стг." (там-жа). З гэтым згаджаецца й тое, што маскоўскі Апостол 1564 г. быў выданы з тэхнічна друкарскага гледзішча без заганы (2). „Каб выпусьціць такую кніжку, якую выпусьцілі ў 1564 г. Ів. Федараў і П. Мсьціславец, — трэ было доўга й пільна вучыцца друкарства" (9). Гэта-ж пацьвярджаюць і орнамэнты-прыборы таго-ж АПОСТОЛА. „Элемэнты, што складаюць застаўку... выпаўнілі дасканальныя майстры. Шырокае лісьце аканту чыста ґотычных хормаў вольна ўкладзена зь вельмі выдзержанай дэкоратыўнасьцяй із роўнядным разуменьням разьмяшчэньня. Краскі, гранаты, садовіна — усё гэта мае пэўнае сваё месца і так прыродна, так зручна ўкладзена, што прыходзіш да вываду, што ўкладаў гэтыя застаўкі вельмі дазнаны мастак, а выразаў — майстра зь вялікай тэхнічнай ведаю а ўменьням, майстра, што прайшоў даўгагоднюю сталую школу."

„Ні ў якім прыпадку ня мог выпаўніць гэтыя маляванкі зь іх высокімі композыцыйнымі ды тэхнічнымі дасягненьнямі хоць-бы й найлепшы майстра школы, што адно пачынала сваю дзейнасьць. Рука дазнанага, аднолькава як і адважнага майстры чуецца ў усіх заломах лістоў а голяў, у штрыхаваньню й накладаньню яе і галоўна ў дэкоратыўнасьці композыцыі ды выпаўненьню рысунку".

„Ня нашае заданьне шукаць аўтараў гэтых композыцаў. Але ўсё-ж такі, хто ж споўніў у Маскве да Апостола 1564 г., надрукаванага Федаравам, маляванкі да клішаў, а хто самыя клішы зрабіў? Магчыма, што адно й другое зрабіў тый самы майстра... Майстра тый мусіў маць вялікае мастацкае й тэхнічнае дазнаньне а здольнасьць. Звычайна — у Маскве ў той час заняпаду культуры (калі й друкары мусілі адтуль уцякаць і ратавацца ад самасуду нездаволеных друкарствам Маскоўцаў) такіх выдатных майстроў шукаць сярод Маскоўцаў — лішняя рэч. Друкарства перад гэтым у

Маскве ня было, яно зьявілася адно за Грознага, калі прыехаў да Масквы Данец Місынгейм; дагэнуль вучыцца Маскоўцам ня было ў каго. Думаю, што майстры гэтых застаўкаў былі прыяжджомыя. Ці гэта быў Місынгейм альбо ягоныя сяброве — гэта пакуль што няма ведама. Ці, бо й гэта магчыма, гэтыя клішы або маляванкі да іх прывезьлі з Галіцка-Польскай стараны".*) Што да „Галіцка-Польскай стараны", дык такое дапушчэньне ні на чым ня было-б абапертае. А, як мы бачылі, учасьце Місынгеймава таксама адпадае. Застаецца адно, на што ёсьць шмат падставаў, што мастаком маляванкаў а майстрам клішаў былі Беларусы. У Беларусі ўжо у першай чэцьверці XVI стг. ґравюры выданьняў Скарыніных ня ўступаюць найлепшым нямецкім**). Маглі быць клішы прывезеныя зь Беларусі, а мог іх і ў Маскве зрабіць Пётра Мсьціславец. І эты мусіў быць выдатным майстрам друкарскім, калі пасьлей, просьле свае працы ў Заблудаўю, ён тэхнічна арганізуе ў Вільні вялізную друкарню дому Мамонічаў, што размахам свае дзейнасьці перайшла друкарню Скарыніну.

Дык друкарскім вучыцелям Івана Федаровіча быў Беларус Пётра Мсьціславец. Наагул, як з усяго відаць, закладнікамі маскоўскага друкарства, ня толькі ў 1564 г., калі спроба скончылася ўцекамі друкароў да Беларусі, але й пасьлей, у XVII стг. былі Беларусы. Рабілі гэта Беларусы ня дзеля прыязьні да Масквы, з каторай Беларусь блізу бязупыну ваявала, але дзеля заработку. Дэспоты барбарскай Масквы, пачуўшы патрэбу асьветы, шчодра плацілі прыяжджомым культуртрэґерам. Федаровіч піша: „царь повеле от своея царскія казны нещадно давати от своих царских сокровищ делателем: Николы Чюдотворца Гостунского диякону Ивану Федорову да Петру Мстиславцу, на составление книг печатному делу и к их успокоению". Але, як Максіму Грэку і чысьленым іншым прыяжджомым культуртрэґерам, Мсьціслаўцу заработак у Маскве ня ўдаўся. Супроць друкароў узьнялася злосьць маскоўскіх „начальник и священноначальник и учитель", вось-жа спачатку ня чэрні, каторая пра друк магла ня ведаць, але маскоўскай інтэліґенцыі, каторая падвучыла цёмную масу, вінавацячы друкароў у гэрэзі й чараўніцтве (10). Прыпомнем, што ў Маскоўшчыне, як і на Ук-

---

*) М. Макаренко: Орнаментація української книжки XVI-XVII ст., Кіеў 1926, б. 46-47.

**) Д. Генин: Графика. (Очерки по истории изобраз. искусства Белоруссии), 86.

раіне, вытварыўся пагляд, што сярод Беларусаў мноства чараўнікоў. Такі пагляд быў ад найдаўнейшых часоў, яшчэ Усяслаў Полацкі XI стг. слыў чарадзеям. У Украінцаў ё нат прыказка „що литвин, то чарівник". Друкары мусілі ўцякаць „в Литву", зн. да Беларусі.

**Скуль паходзіў Іван Федаровіч?** За першым Калайдовічам і Р. ўважае, што Федаровіч „быў родам із Масквы альбо зь мясцовасьцяў да яе блізкіх", бо даўнейшыя друкары зазначалі свае паходжаньне ў перадмовах а праслямовах, а Федаровіч у іх завець сябе „Масквіцінам". У Беларусі адылі ўсіх жыхараў Маскоўскага гаспадарства звалі Масквіцінамі, яковымі яны й былі з гледзішча палітычнага. Дзеля таго тут „Масквіцін" нічога не даводзе. Р. кажа „Дагадкі іншых біографаў Федаравых, што ён паходзіў ізь сяла Гостуні, Ліхвінскага павету, абапертыя няма ведама на чым" (3). Праўда, мы мала ведаем, на чым яны абапертыя, але штось, здаецца, можна ўказаць. Іван Федаровіч быў дыяканам у крэмлеўскай царкве Міколы Гостунскага ў Маскве. Звалася царква Нікольско-Гостунскай дзеля таго, што ў 1505 г. да яе перанесьлі абраз сьв. Міколы ізь сяла Гостуні, Ліхвінскага пав. Як бачым, ё некаторая сувязь. Магчыма, што біографы, выводзячыя паходжаньне Федаровіча з Гостуні, малі яшчэ іншыя на гэта даныя. Зьвернем увагу, што не адно Мсьціславец, але й Федаровіч, уцёк із Масквы да Беларусі ў часе вайны Беларусі з Масквою, так званай у расійскіх гісторыкаў вайны за Лівоню. Уцяклі яны, відавочна, із згоды беларускай улады, бо былі добра прынятыя гэтай уладаю. Гэтак ня ставяцца да непрыяцеляў у часе вайны. Калі згадзіцца, што Федаровіч паходзіў з Гостуні, Ліхвінскага пав., тады справа робіцца зразумелай. Заходняя часьць Ліхвінскага пав., разам із м. Ліхвінам, яшчэ дагэтуль належа да этнографічнай прасторы беларускай*), належыла, ведама, і ў XVI стг., дарма што палітычна ўжо належыла да маскоўскага гаспадарства. Прыпомнем, што яшчэ ня шмат прайшло часу ад прылучэньня да Масквы ўсходніх тэрыторыяў беларускіх. Разанскае княства, што ўвесь час ходалася з Масквою, было ёю зьліквідавана толькі ў 1520 г. Крыху раней былі ёю заваяваныя ў Беларусі княствы Вярхоўскія (лежачыя ля вышняй Акі а вышняй Дзясны). Сьвядомасьць жыхарства свае нацыянальнае апрычонасьці ад Масквы мусіла быць жывая, калі яшчэ ў XVII

---

*) Гл. „Опыт диалектологической карты русского языка в Европе" Маскоўскае Дыялект. Комісі.

стг., за Самазванцаў, яны, як Вярхоўскія землі, так і зямля Разанская, адлучыліся ад маскоўскага гаспадарства. Вось-жа беларускай нацыянальнасьцяй Федаровіча выясьняецца прыхільнае да яго становішча беларускай улады. Што Іван Федаровіч ня прыяў Маскве, відаць із таго, што пасьлей, прыехаўшы з Астрога ў Львоў, ён бярэцца адліваць гарматы, з каторых на вайне малі страляць у Маскоўцаў (тады была вайна з Масквою).

**Пасол М. Гарабурда.** Здаецца, можна дапусьціць, што калі ня зь першым друкам у Маскве, дык прынамся з уцекамі друкароў „да Літвы" маў дачыненьне беларускі (Вялікага Княства Літоўскага) пасол да Масквы, Міхал Гарабурда. Гэты дазнаны пасол, неаднаўчы бываючы ў Маскве, мусіў знаць Маскву а ейных людзёў. І пагатове мусіў знаць інтэліґентнага Беларуса Івана Федаровіча, дыякона Мікольска-Гостунскай царквы ў крамлю. Ведаем, што Гарабурда, будучы праваслаўным, хадзіў да царквы ў Маскве. Калі яны ня былі ўперад знаёмыя, то Федаровіч пэўне бачыў беларускага пасла ў царкве і зьвярнуўся да яго патрабуючы ўцякаць із Масквы да Беларусі. Пасярэднікам мог быць П. Мсьціславец, каторага пасол Гарабурда напэўна знаў. Ведама таксама, што Гарабурда спаўняў у Маскве некаторыя прыяцельскія паручэньні сваіх суграмадзян, што рупіліся пра друкарскія справы. Гэтак князь Касьцянцін Касьцянцінавіч Астроскі, зьбіраючы адусюль (і заграніцаю — у Сэрбіі, Баўгарыі, Константынополю) розныя выданьні Біблі, каб, прыраўнаваўшы, надрукаваць новае папраўленае выданьне, зьвярнуўся таксама да Гарабурды з просьбаю, дастаць яму ў Маскве Генадзіеву Біблю. І Гарабурда яе дастаў у Івана Грознага (36).

Можа пра знаёмства Федаровіча з Гарабурдаю сьветча і тое, што прыяцелям Федаровічавым быў Цімох Міхайлавіч служэбнік М. Гарабурды. Гэтаму Цімоху Міхайлавічу Федаровіч, жывучы ўв Астрозе, дае паручэньне спагнаць свой доўг із віленскага мешчаніна Якава Максімовіча.

Тое, што, уцякаючы з Масквы, друкары маглі забраць із сабою матрыцы літараў, колькі кніжак надрукаванага Апостола, а Федаровіч і сваю радзіму, таксама сьветча, што не абышлося бяз помачы ўплывовых людзёў. А гэтая помач найлягчэй магла прысьці ад пасла Гарабурды.

**Мсьціславец і Федаровіч у Беларусі.** Уцёкшы з Масквы, нашыя друкары, хіба пры помачы таго-ж пасла Гарабурды, перайшлі маскоўска-беларускую граніцу і прыехалі да сталіцы Беларусі Вільні.

Тут у тым часе быў Вялікі Сойм. У Вільні друкары, праўдападобна таксама з помачай Гарабурды, зьвярнуліся да Кашталяна Віленскага і Вялікага Гатмана Вялікага Княства Літоўскага Грыгора Ходкевіча. Гатман Ходкевіч яшчэ ўперад маніўся закласьці друкарню; дзеля таго яму гэтыя друкары вельмі згадзіліся, і ён прыняў іх. Было гэта на пачатку 1566 г. Ходкевіч не пажалеў вялікіх грошы на ўладжаньне друкарні ў сваім двару Заблудаўю (ля Беластоку). Друкаром ён плаціў таксама шчодра, пра што неаднoўчы з падзякаю ўспамінае Федаровіч. Па якімсь часе Ходкевіч падараваў Федаровічу сяло.

Быцьцё ў Заблудаўю было найшчасьліўшым часам у жыцьцю Федаровічавым. Недарма ён так шчыра ўспамінае Ходкевіча і па яго сьмерці.

Тут, у Заблудаўю праявіўся і ад'емны ўплыў Федаровічаў. Ходкевіч згодна з паглядамі, пануючымі ў Беларусі ад часу Скарыны, маніўся выдаваць рэлігійныя кнігі ў мове беларускай. Іншага пагляду быў Федаровіч. У маскоўскім гаспадарсьцьве, дзе ён пражыў да 1564 г., ня толькі ня было кнігаў у мове беларускай, але й наагул ня было ў мове народнай, знач. і ў маскоўскай. А малапісьменныя маскоўскія перапісаваньнікі нарабілі гэтулькі абмылаў перапісуючы, што нельга было разабрацца, дзе тэкст добры, а дзе запсаваны*). Бачачы такую шкоду ад аднаго перапісаваньня, Федаровіч баяўся, што ад перакладу шкода будзе яшчэ большая, і пераканаў Ходкевіча друкаваць царкоўна-славянскай моваю.

Гатман Ходкевіч маніўся шмат надрукаваць кнігаў, але надрукаваныя ў Заблудаўю былі толькі Вучыцельная Ванэля і Псалтыр із Часаслоўцам. Сталася гэта, відавочна, ня дзеля таго, што ў 1569 г. П. Мсьціславец пакінуў Заблудаўе (па кароткім часе бачым яго ў друкарні Мамонічаў у Вільні). Былі гэтага іншыя прычыны. Вунія з Польшчаю, каторай гатман Ходкевіч быў заўзятым праціўнікам, сталася ў 1569 г., а асноўная зьмена ейных умоваў на карысьць Беларусі зроблена была адно пасьлей — у 1588 г. І матар'яльныя справы Ходкевічавы папсаваліся. Дзеля таго, зьнемарашчаны, ён пастанавіў зьліквідаваць друкарню, а Федаровічу пазычыў заняцца ралейніцтвам у падараваным яму дварэ.

---

*) Як ведама, Маскоўцы ў гэтым самі і не разабраліся. Ім давялося чакаць сто год, калі за патрыярхі Нікона і цара Аляксея Міхайлавіча папраўлі ім тэксты багаслужбовых кнігаў запрошаныя ў Маскву беларускія а ўкраінскія наўчоныя. Гэтая паправа адылі выклікала стараверскую гэрэзь.

**Федаровіч у Львове.** Але Федаровіч не захацеў растацца зь любым яму заняткам. Ён „забраў усю сваю маемасьць, друкарскую снасьць а снадзівы, часьць надрукаваных кніжак і, разам із сынамі, падаўся да Львова" (18).

У Львове Федаровічу не пайшло так лёгка зь мэцэнатам, як гэта было ў Беларусі. Але ён сюды прыехаў із вялікай сваёй маемасьцяй, што зарабіў у Заблудаўю. Пра гэта піша сам Федаровіч у перадмове да львоўскага Апостола 1574 г. Ён тут кажа, што, калі ён жыў у Заблудаўю, то „багацьця да яго многа прыплывала". Ён ня толькі „усякімі патрэбамі быў здаволены", але й дастаў ад Ходкевіча „немалое сяло". Выяжджаючы із Заблудаўя, ён гэнае сяло прадаў. Пра заможнасьць Федаровічаву, калі ён жыў у Заблудаўю, сьветча й тое, што віленскі мешчанін Я. Максімовіч быў яму вінен за купленыя напавер кніжкі 262 капы грошы літоўскіх (за іх можна было купіць болей як 130 кароваў). Апрача таго, пятнанцаць коп грошы літоўскіх пазычыў Федаровіч заблудаўскаму протопопу Нестару і, адно па сьмерці Федаровічавай, ягоны сын даець паручэньне спагнаць гэты доўг із Нестара. Калі Федаровіч выяжджаў із Заблудаўя, ён не сьпяшаўся спагнаць гэтыя грошы ў протопопа, — відавочна, бязь іх мог абысьціся. Дык няма дзіва, што Федаровіч гэтак канчае сваю перадмову да львоўскага Апостола: „Хто будзе чытаці гэтую кнігу, няхай дасьць падзяку даўцу ўсяго дабра Госпаду Богу, а яго міласьці пану Грыгору Аляксандравічу Ходкевічу вечная памяць... потам-жа сыном яго міласьці пану Андрэю Грыгоравічу Ходкевіча, пану падстолему вялікага княства Літоўскага, старасьце Магілеўскаму, і яго міласьці пану Аляксандру Грыгоравічу Ходкевіча, старасьце Горадзенскаму, дзяржаўцы Менскаму хай просіць душэўнага спасеньня а даўгіх год здароўя, бо ад іх прышла такая карысьць" (21). У тэй-жа кнізе Федаровіч надрукаваў гэрб Ходкевічаў. За вялікія грошы можна было ўладзіць вялікую друкарню. Калі пасьлей гэтую друкарню Федаровіч залажыў Жыду Якубовічу, дык львоўскае брацтва зь біскупам Г. Балабанам адно зь вялікай натугаю сваіх сяродкаў, пры закліках вышшае царкоўнае ўлады (гл. лісты біскупа Гедзеона Балабана і грэцкага патрыярхі Феафана да львоўскіх праваслаўных вернікаў) магло выкупіць гэтую друкарню із закладу (19-20).

Калі друкарня была гатова, дык на друк кніжак і на арганізаваньне іх продажы пазычылі Федаровічу грошы колькі львоўскіх мяшчан а сьвятароў. Даўжбіт Федаровіч забясьпечыў грошы пазычэньнікам на сваёй друкарні.

Першая кніжка на Украіне „Львоўскі Апостол” была надрукавана ў 1574 г.

**Федаровічу памагае Грынь Івановіч.** Федаровічу ў Львове памагаў ягоны выраслы сын Іван; ён быў апраўнікам. Апрача таго, зь Федаровічам прыехаў із Заблудаўя іншы Беларус, Грынь Івановіч.**) Яго Федаровіч аддаў у Львове ў навуку да маляра Лаўрына Філіповіча і два гады плаціў за навуку. Грынь Івановіч навучыўся малярства, сталярства, разьбарства а выразаньня літараў; сам Федаровіч навучыў Івановіча друкарства. За гэта Грынь Івановіч абавязаўся не рабіць без дазволу Федаровічавага нікому літараў да друку і ня ладзіць друкарні. У іншым рамясьцьве, як малярства, сталярства, альбо выразаньня чаго іншага на кове (мэталю) Івановіч быў вольны (26).

**Беларускія друкары ўв Астрозе.** У 1575 г. Федаровіч ізь Львова пераяжджае да Астрога да князя Касьцянціна Астроскага. Разам ізь ім паехаў і Грынь Івановіч.

Астроскі заказаў ім надрукаваць Біблю. Да друку такое вялікае кнігі патрэбныя былі меншыя літары, чымся тыя, якімі друкаваў Федаровіч дагэтуль. Новыя літары нарэзаў Грынь Івановіч. Не малая была гэта работа, бо Астроская Бібля была надрукавана шасьцьма шрыфтамі, у тым ліку адным грэцкім. Шрыфт да назоваў быў узяты зь віленскай друкарні Мамонічаў. Харашынёю шрыфтаў і цэлай друкарскай тэхнікаю Астроская Бібля ня ўступала найлепшым выданьням эўропскіх друкарняў таго часу (41).

**Ізноў у Львове.** Па надрукаваньню Біблі князь Астроскі ня даў болей друкарскай работы нашым друкаром. Яны пабылі яшчэ кароткі час ув Астрозе, а тады пераехалі да Львова, манючыся там далей займацца друкарствам. Грынь Івановіч выразаў Федаровічу адзін шрыфт і пачаў рэзаць другі, але тут, ці то з тугі па бацькаўшчыне, ці ўважаючы, што Федаровіч яму мала плаце, Івановіч пакідае Львоў і пераяжджае да Вільні да друкарні Мамонічаў. Тут ён выразаў Мамонічам два шрыфты.

Выезд Гр. Івановіча разьбіваў пляны Федаровічавы. З Астрога ён выехаў не такі багаты, як із Заблудаўя. „Астроскі, мабыць, заплаціў яму за работу болей кнігамі, чымся гатовымі грашмі” (42). Апрача таго, Федаровіч узяў у Астроскага кнігі на продаж напавер, зн., маў яшчэ доўг Астроскаму. Федаровіч ня маў грошы адкупіць

---

**) Грынь — здрабнелае імя ад „Грыгор”. Ад імені „Грынь” паўсталі прозьвішчы „Грынько”, „Грыневіч”, „Грынкевіч”.

закладзеную Якубовічу друкарню, рок (срок) выкупу каторай ужо зышоў, і Якубовіч вымагаў сумы ўтрая большай, чымся сам даў. Заставалася толькі закладаць новую друкарню і рэзаць да яе шрыфты. Ён пазваў у суд Івановіча за тое, што гэты, паехаўшы да Мамонічаў, узрушыў ізь ім умову. На судзе яны пагадзіліся і зрабілі новую ўмову. Гр. Івановіч абавязаўся не рабіць нікому, апрача Федаровіча, шрыфтаў і ня ладзіць друкарні. Калі-б Івановіч умову ўзрушыў, ён мае даць суду 500 злотых і такую-ж суму Федаровічу ды, апрача таго, зьвярнуць усі страты. Федаровіч абяцае даць Івановічу дакончыць той шрыфт, што ён пачаў рэзаць, і заказаць яму другі. Калі-б Федаровіч гэтага ня споўніў, то мае заплаціць Івановічу а суду па 500 зл.

Але ўсё-ж такі Федаровічу ня стала грошы на ўладжаньне новае друкарні. Дзеля таго ён кідаецца на іншае прадпрыемства — адлівае гарматы, што былі тады так патрэбныя ў часе вайны з Масквою.

Памер Іван Федаровіч 5 (15? — М. Пр.) сьнежня 1583 г.

**Друкарская спадчына.** І жывучы на Украіне, у Львове й Астрозе, Федаровіч быў у жвавым контакце гандлёвым а прамыслова — друкарскім із рознымі беларускімі местамі — Вільняю, Слуцкам а іншымі. Друкаваныя ім кніжкі царкоўна-славянскай мовою маглі разыходзіцца ўсюды, дзе гэтая мова ўжывалася ў царкве. Дзеля таго ў Беларусі ведалі пра Федаровічаву дзеяльнасьць а пра ягоныя прадпрыемствы. Дзеля таго-ж па сьмерці Федаровічавай, часьць ягонага друкарскага спадку была прывезена да Беларусі. Сталася гэтак: львоўскія пазычэньнікі Федаровічавы забралі за доўг па яго сьмерці недаконченую ім новую друкарню; ад іх друкарню адкупілі Мамонічы і перавезьлі да Вільні да свае друкарні. Яны-ж ад тых пазычэньнікаў купілі часьць недадрукаваных экзэмпляроў Астроскае Біблі.

Па сьмерці Івана Федаровіча Грынь Івановіч, хіба, таксама зьвярнуўся да Беларусі.

Як сказана вышэй, першую сваю львоўскую друкарню Федаровіч залажыў Якубовічу за 411 злотых польскіх. Гэты хацеў за яе цяпер 1500 зл. Але дарма! Знайшліся купцы, што хацелі ў яго купіць і вывезьці да Масквы, ведама, каб добра зарабіць. Львоўскі япіскап Гедзеон Балабан піша ў сваім лісьце „Знайшлися таковые купчикове, хотевши оные усе матрецы и приправы друкарские купити, а до московское земли з панств его королевское милости

вывезти, скарб особливый загубити, з шкодою немалою церквам". Япіскап Балабан заплаціў собскімі грашмі Якубовічу 1500 злотых, а пасьлей ужо адзержыў із вялікімі цяжкасьцьмі гэтую суму ад Львоўскага брацтва. Гэтак была закладзена сталая друкарня ў Львове пры Стаўропігійскім Інстытуце, тая друкарня, што згуляла вялікую культурную ролю ў гісторыі Украіны.

З усяго менаванага бачым, што Беларусы былі закладнікамі друкарства на Украіне і пачалі яго сваймі вялікімі коштамі.

## М. МУСОРГСКІ

У вельмі цікавым артыкуле „Беларуская народная песьня ў творсьцьве выдатных композытараў"*) Мікола Куліковіч спыняецца на тым нам важным факце, што нашымі песьнямі захапляемся не адны мы, але й шмат хто із славутых чужнікоў-музыкаў. Я хачу спыніцца на Мадэсту Мусоргскім. Адзначыўшы сусім відавочнае быцьцё нашых песьняў і ў гэтага сьветнага майстры музыкі, асабліва ў опэры „Барыс Гадуноў", сп. Куліковіч пытаецца: „Як і колькі знаў беларускую песьню ґеніяльны расійскі композытар Мадэст Мусоргскі — пытаньне, яшчэ зусім някранутае ў гісторыі музыкі, але можна здагадавацца, што Мусоргскі так ці накш вычуваў яе і можа мімаволі адчуваў ейныя ўплывы"...

Я хачу дадаць тут некаторыя факты. Якраз перад другой сьветнай вайною адным із савецкіх выдавецтваў была выпушчана кніжка пра жыцьцё й творства Мусоргскага; кніжка так і звалася „Мусоргскі". Гэтую кнігу я быў нажыў, але, жаль, пакінуў у Бацькаўшчыне разам із сваёй бібліотэкаю, калі стаяла пытаньне, што браць, кнігі ці кавалак хлеба... Ня памятую цяпер і аўтара гэнае працы, але здаецца нейкі Ельцоў. Я ўважліва прачытаў гэнную кнігу колькі разоў, бо яна мяне заінтрыгавала із самага пачатку. У ёй досыць драбязна прыводзіцца жыцьцяпіс слаўнага композытара. Дзед ягоны эміґраваў із задзіночанага беларускага гаспадарства („Літвы") ў Пскоўшчыну. Прозьвішча ягонае было **Мусорга.** „Мусоргскі" сталася пасьлей, здаецца за жыцьця бацькі. Да перасяленьня ў Пецярбург, Мусоргскія жылі ў Пскоўшчыне на пагранічча з гістарычнай Беларусяй. Тут Мусоргскі й выгадаваўся сярод селавой дзятвы. Гэткім парадкам, Мусоргі, перасяліўшыся зь гіста-

*) Гл. „Веда" зь ліпня-верасьня 1951 г.

рычнай Беларусі, апынуліся ў беларускай-жа Пскоўшчыне. Было-б дзіўна, каб музыцкая натура Беларуса, жывучага сярод беларускай стыхіі, не захапілася тымі прыгожымі беларускімі песьнямі, каторыя бяссумлеву пялі вечарамі на прызьбе селавыя дзяўчаты. Заценім, што нат чужы нам Пушкін узяў беларускі варыянт казкі пра рыбака і залатую рыбку.

**Марцін Люціч**

**Др. Я. Станкевіч**

## НЕКАТОРЫЯ ПРАЎНІЦКІЯ ТЭРМІНЫ БЕЛАРУСКІЯ.

### КОЛЬКІ СЛОВАЎ АД АЎТАРА

Заданьням аўтара гэтага артыкулу было дасьледаваць некаторыя тэрміны праўніцкія, як із гледзішча іх значаньня, так із гледзішча іх беларускасьці й магчымасьці ўжываньня цяперака. Асноваю артыкулу паслужыла часьць тэрмінаў Статуту Літоўскага 1588 г. Выпісаўшы іх ізь перадруку гэтага Статуту ў І. Лаппы (Коўня 1938), я прыраўнаваў іх да такіх-жа тэрмінаў дасьледаванага мною „Аль кітабу" Беларускага Музэю Йвана Луцкевіча ў Вільні, што было важна дзеля сучаснасьці яго із Статутам 1588 г. і народнасьці ягонае мовы. Гэткім парадкам побач маем традыцыйную літаратурную мову беларускую Статуту і беларускую мову народную „Аль кітабу". Адлі я прыраўнаваў выпісаныя тэрміны да такіх-жа ці блізкіх да іх тэрмінаў і звычайных словаў цяперашняе беларускае мовы народнае, карыстаючыся слоўнікамі Насовічавым, Краёвым Слоўнікам Ігуменшчыны („Чэрвеншчыны") Шатэрнікавым а Краёвым Слоўнікам Віцебшчыны Касьпяровічавым, а рэдчас і сваймі запісамі. Каб чытар мог пераканацца, у чым пераканаўся я, я шчодра прывёў прыклады ў проказях із менаваных жаролаў. Ані Статут 1529 г., ані вялізманны сгараактавы матар'ял мне ня быў прыступны, а дзеля нястачы часу я ня мог выкарыстаць і ўсяе тэрмінолёґіі Статуту 1588 г. Узяць пэўны тэрмінолёґічна-праўніцкі матар'ял із прыступных мне слоўнікаў і лексыкальных артыкулаў і тым павялічыць колькасьць тэрмінаў у разы тры-чатыры было-б работаю сусім лягкой супроць тае, што зроблена гэтта, але й гэтага я не зрабіў зь дзвюх прычынаў: першае, усё нястача таго-ж часу ў умовах майго падарожніцкага жыцьця; другое, што артыкул і так неўспадзеўкі разросься і з большым матар'ялам ня мог-бы быць цяпер надрукаваны. Адно ў канцы работы я „пад-

сыпаў" крышку таковых тэрмінаў, пэўных а ведамых, рэдчас дзеля часу не дадаючы да іх мэтрыкі, каторую лёгка знайсьці ў іншым месцу і каторая будзе паказана ў маім агульным слоўніку беларуска-маскоўскім, што гатую да друку.

Як кажная тэрмінолёгічная праца вымагае дзьвюх спэцыяльнасьцяў — мова веднае й спэцыялістага з данае галіны веды, так і тэрмінолёгія праўніцкая. Дзеля таго, дасьледаваўшы ўвесь матар'ял, я з усім чыста, як із тымі тэрмінамі, у значаньню якіх сумляваўся, так ізь бяссумлеўнымі мне, зьвярнуўся рады да гісторыка права проф. Лява Акіншэвіча, ад якога адзержаў істотную помач, за што гэтта выказую яму найшчыршую падзяку; безь ягонае помачы артыкул гэты ня толькі ня быў-бы тым, чым ёсьцека, але, можа, і сусім ня быў-бы.

Навуковы падыход да працы вымагаў паказаць, скуль слова выпісана, або дзе яно запісана, рэдчас адно й другое разам. Паказаньне месца запісу або выпісу слова, пастаўленае ля самога слова паказуе толькі, скуль слова ўзята, а тое-ж паказаньне, пастаўленае за перакладам слова, ня толькі паказуе, скуль слова ўзятае, але й тое, што яно ў сваім жарале — слоўніку перакладзена так, як пададзена ў гэтым артыкуле. Паказаньне месца запісу або выпісу, пастаўленае за прыкладам — проказяй, паказуе, скуль узятая проказь. Паказаньні на розныя жаролы таго самога слова адлучаны пунктам із коскаю (;), а паказаньні на розныя мясцовасьці, зь якіх слова лучыла ў тое самое жарало, адлучаны коскаю (,). Ведама, пашырэньне слова большае за месца ягонага запісу і звычайна абымае ўсю або прынамся бальшыню прасторы беларускае мовы.

Артыкул гэты мае наўвеце вылучна лексыкальны бок мовы, дасьледаваньнікі фонэтычных а граматычных асаблівасьцяў беларускае мовы зьвернуцца беспасярэдне да жаролаў а, з другога боку, пажадана, каб, пазнаючы беларускія праўніцкія тэрміны, чытар не псаваў свае мовы барбарызмамі, што рэдчас сустракаюцца ў жаролах, скуль браныя прыклады; дзеля таго, ня толькі ўсі прыклады пададзены подле сучаснага правапісу, але й дзе-ня-дзе, у радкіх прыпадках чужыя словы або хормы замененыя сваймі літаратурнымі. Робячы гэтак, я, казаў той, бяру прыклад із Маскоўскае Дыялектолеґічнае Комісі, што ў сваім „Очерку русской діалектологии" (Масква 1915.) беларускія прыклады падаець у хорме маскоўскай з выняткам, ведама, асаблівасьці, на якую прыклад прыводзіцца. Гэткі спасаб (Комісін), знаёмячы чытара з аднэй а-

саблівасьцю беларускае мовы, прыяў забываньню ім асаблівасьцяў іншых. Валей спосаб, ужыты ў гэтым артыкуле, пры ім чытар толькі вучыцца.

Наапошку не магу ня выказаць свайго захапленьня Статутам Літоўскім. Чым балей чытаеш гэтую вялікую памятку беларускага права, тым балей яе разумееш а цэніш. Ужо пры дасьледаваньню аднае мовы Статуту чуешся ў высака культурнай атмосфэры, а што-ж казаць пра зьмест. Пра наш Статут напісана гара працаў, але да іх сярэдні чытар ня мае прыступу. У падручніках сярэдніх школаў кажацца пра Статут Літоўскі колькі словаў высокае ацэны, тады падаецца колькасьць разьдзелаў і артыкулаў, з чаго вучаньнік надта мала мае. Дзеля школы і сярэдняга чытара беларускага наш час станаўко дамагаецца апрацаваньня Статуту з гледзішча, апрача праўніцкага, яшчэ з нацыянальна-палітычнага, культурнага й гуманітарнага. Хто гэта зробе?

Часьць разгледжаных тэрмінаў карысна й трэба ўжываць у цяперашняй беларускай мове літаратурнай. Гэткія тэрміны ў артыкуле пазначаны зоркаю. Засталыя, не пазначаныя зоркаю, тэрміны або ня могуць быць ужываны цяперака, або аўтар узьдзержыўся што да выказаньня з гэтага гледзішча пра іх свайго пагляду.

**Аўтар**

У Рэґенсбурзе,
1.5. 1948.

## СКАРАЧЭНЬНІ

### Мясцовасьці.

Ар. — сяло Арляняты, Краўское вол., Ашмянскага пав.
Аш. — Ашмянскі павет.
Беш. — Бешанкаўскі п.
Вял. — Вялейскі п.
Віл. — Віленскі п.
Віц. — Віцебскі п.
Выс. — Высачанскі п.
Войст. — Войстамская вол., Вялейскага п.
Дз. — Дзісенскі п.
Лёз. — Лёзенскі п. (Лёзна).
Лпл. — Лепельскі п.
Н. — Наваградзкі п.
Пархв. — Пархвенава ля Докшыцаў, Вялейскага пав.
Пруж. — Пружанскі п.
Пц. — Полацкі п.
Сян. — Сянскі п.
Ск. — Сакольскі п.
Смл. — Смаленскі п.
Ст. — сяло Старына, Ігуменскага пав. Словы ўзятыя з Краёва-

га Слоўніка Чэрвеншчыны Шатэрнікавага.

Сур. — Сураскі п.

Сьміл. — Сьмілавіцкі п.

Сьп. — Сьпягліца, Вішнеўскае вол. Вялейскага п.

Чаш. — Чашніцкі п.

## ЛІТАРАТУРА

Аль кітаб, Кіт. — Аль кітаб Беларускага Музэю Йв. Луцкевіча ў Вільні.

Гсл. — Гарэцкі М.: Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік, Вільня 1921.

Кіт. — гл. Аль кіт.

Ксл. — Касьпяровіч М.: Краёвы слоўнік Віцебшчыны 1927г. Перад гэтым скарачэньням звычайна паданы скарочаныя назовы паветаў (раёнаў) Віцебскае акругі, а перад імі поўныя назовы сёлаў або местачкаў.

Нк. — із запісаў М. Нікіфароўскага ў Віцебшчыне.

Нсл. — И. Носович: Словарь белорусского наречія.

Ст. акты. — старыя акты.

Стт.— Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. ў перадруку І. Лаппы, Коўня 1938.

Шсл. — Шатэрнік М.: Краёвы Слоўнік Чэрвеншчыны, Менск 1929.

Фрсл. — Станкевіч Я.: Маленькі маскоўска-крывіцкі слоўнічак фразэолёґічны, менскае выданьне 1944 г.

**Лікі ўсюдых паказуюць бачыны.**

**Адныя лікі, бязь літараў паказуюць бачыны Статуту 1588 г. ў перадруку Лаппы..**

## ПАЯСЬНЕНЬНІ.

аднр. — дзеяслоў аднаразнага трываньня.

безас. — дзеяслоў безасабовы.

гл. — гля, глянь.

зб. — зборны.

зв. — зваротны дзеяслоў.

зьм — зьменшаны, здрабнелы.

ж — жаноцкі род.

м. — мужчынскі род.

нв. — дзеяслоў наваратны („многократный").

пр. — прыраўнуй.

прыг. — прыгаворка.

прык. — прыказка.

прыс. — прыслоўе, прыгаворка.

прыт. — прытарнаванае.

пркл. — прыкладам.

прс. — прыслоўе (грам.).

ск. — дзеяслоў скончанага трываньня.

суп. — супольнага роду.

тм. — там-жа.

Лік 1 пры дзеяслове паказуе, што ў васнове яго ёсьць **е** (пркл. **чытаеш, чытае, чытаем, чытаеце).**

Лік 2 пры дзеяслове паказуе, што ў васнове яго ёсьць **і** (пркл. носіш, носім, носіце).

— паказуе, што часьць слова прапушчана.

* пазначаныя словы, што, подле аўтара, трэба ўжываць у цяперашняй беларускай мове літаратурнай.

## ПАРАДАК БЕЛАРУСКАЙ АБЕЦАДЫ

а, я, б, в, ґ, г,
х, д, э, е, з, дз,
ж, дж, і, й, ы,
к, л, м, н, о, ё,
п, р, с, ш, т, у,
ў, ю, ф, ц, ч, ь.

**абавязаваць,*** -зую 1, ск. абавязаць, -жу 1, — абяз -ывать -зать Нсл. 350. Абавязую цябе словам. Тм. Абавязаў мяне канечне прысьці да сябе. Тм. Зв. **абавязавацца*,** ск. абавязацца—обяз-ываться-аться. Тм. Як абавязуешся, абавязаўся, так і павінен зрабіць. Тм. **абавязаны*** — обязанный. Тм. Ты абавязаны гэта зрабіць яму. Тм.

**абавязак*** -зку — обязаность. Нсл. 350.

**Прыклады із Статуту:** Будуць лі на лісьцех дзельчых паложаны якія абавязкі, зарукі а няўзрушаньню таго дзелу, кажны подле свайго абавязку з рассудку праўнага заплаціці вінен будзець. 370. Таковымі апісы абавязаліся. 321. Маюць досыць чыніці, чаго ся ацец іх абавязаў. 309. Абвязаўся лістом сваім. 220. Калі ся паддасьць пад тое і абвяжаць, тагды прэд ся воны пазваны наперад будзець яму павінен усправядлівіціся. Тм.

**абарона,*** -ы — защита. Шсл. Ламачыну якую вазьмі — і то будзе абарона. Ст. Ого, у Немцаў вялікая абарона! Ст.

**абаронны*** — охранительный, оборонительный. Нсл. 351. Абаронны мае ліст. Тм. **абароннa*,** прс. — в оборонительном положении. Тм. Стаў абаронна. Тм. Абаронна жывець. Тм.

**абароньнік*,** -а, ж. **абароньніца*,** -ы-защитн-ик, -ица. Ар.

**абіраць*,** -аю 1, ск. абраць, абяру, -рэш, — избирать. Нсл. 347. Абіраць, абраць галаву, бурмістру, старасту. Тм. **абраны*** — избранный. Нсл. 352. Абраны галава, стараста. Тм. **абраньне*,** -я — избрание. Тм. Абраньне галавы старасты. Тм. Нав. **Абіраньне,** -я. **абранец*,** -нца — избранник, любимец. Нсл. 352. Абранец панскі. Тм. Гэта-ж твой каханы абранец зламіў нож. Тм. Абранцу свайму ўсё пазваляе рабіць. Тм.

**Із Статуту:** Маюць высылаці, прамежку сябе на то абраўшы, дзьвюх асобаў. 442. Урад маець ізь местачак і ізь сёл акалічных па тры чалавекі старшых да прысягі абраці, а тыя абраныя вінны будуць прысягнуці. 408. Паслы з кажнага павету, будучы на с'ем валь-

(Далей будзе).

